


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 14 (150), ВЕРАСЕНЬ 2012 ГОДА

*Цытата нумара:*

**Не ведаю, чаму тыя, хто верыць у вынікі выбараў, лічаць сябе менш легкавернымі, чым тыя, хто верыць у анёлаў?**

**Бернард Шоу.**

МЕРКАВАННЕ

## ШТО ХАЧУ, ТО ВАРАЧУ

Мне неаднаразова даводзілася сустракацца з адсебяцінай у дзейнасці мясцовых камісій. Няведанне нормаў выбарчага заканадаўства, заканадаўства Беларусі – гэта норма для "кампентэнтных" выбарчых камісій. Але упершыню сутыкнуўся з масавым ігнараваннем нормаў нашага заканадаўства ў дзейнасці, як Гагарынскай участковай камісіі, так і акруговай камісіі, а таксама ў працы Цэнтральнай камісіі па выбарах.

Перамена месца дыслакацыі Гагарынскай участковай камісіі №36, змена ўсяго яе кіраўніцтва ніякім чынам не паўплывала на паляпшэнне яе працы, на забяспячэнне права назіраць. Старшыня камісіі Пётр Праcолаў пры маёй акрэдытацыі ў якасці назіральніка адразу паказаў месца назіральнікаў ў халодным фае спартыўнага зала нашага фізкультурна-аздараўленчага комплексу. З адведзенага камісіяй месца магчыма назіраць толькі спіны выбаршчыкаў, а не наяўнасць дакументаў, якая сведчыла б аб праве галасаваць на ўчастку. З гэтага месца толькі паранармальныя магчымасці дазваляюць бачыць праз непразрыстыя кабіны колькі выбаршчыкаў заходзіць у кабіну для таемнага галасавання. І гэтымі паранармальнымі здольнасцямі валодаюць праўладныя назіральнікі, якія ў адзін голас заяўляюць, што усё бачаць. Як кажуць, іх бы здольнасці да ў мірных мэтах.

Маю заяву аб рэалізацыі права назіраць з поўным аб'ёме за працэдурай галасавання старшыня камісіі і намеснік пакінулі без разгляду. Адказ мне накіравала сакратар камісіі Наталля Гамзюк, парушаючы пры гэтым Пастанову Цэнтрвыбаркама аб працы участковых камісій. Дзеля аднаўлення права назіраць давялося ў другі дзень датэрміновага галасавання ў чарговы раз звярнуцца ўжо са скаргай да самой камісіі. А пасля падачы скаргі заняць тое месца з якога бачна працэдура галасавання – паміж сталамі выдачы бюлетэняў і кабінамі таемнага галасавання. З занятага месца было добра бачны і дакументы ў руках выбаршчыкаў і уваход у кабіны. Ды і прысутныя члены камісіі Наталля Ляўшова і Алёна Кажэка спакойна рабілі справу па выдачы бюлетэняў, а падыйшоўшы праз дваццаць мінут намеснік старшыні камісіі Юры Дудараў ніякага распараджэння па выдаленню мяне з участка не рабіў.

Усё змянілася пасля абеду, калі камісія правяла паседжанне па разгляду скаргі, а на участак з'явіўся Пётр Праcолаў. Калі я заняў ранейшае месца паміж сталамі і кабінамі, то старшыня запатрабаваў майго выдалення з участка дзяжурным міліцыянерам з пагрозай выклікання нараду міліцыі. Мае просьбы прадставіць акт аб выдаленні з участку ігнараваліся, як і просьба прадставіць кнігу заўвагаў для запісу аб прадстаўленні акта. Пасля маіх званкоў аб прадстаўленні акта да старшыні акруговай камісіі Аляксандра Красоўскага, да дзяжурнага члена акруговай камісіі Віктара Камышова, званкоў у Цэнтрвыбаркам, на лінію 102 ў 16.45 мне выдалі ў рэшце-рэшт акт аб быццам бы парушэнні заканадаўства з рашэннем старшыні аб выдаленні. Пётр Праcолаў нічога не ўзгадваў ні пра рашэнне камісіі, ні пра акт №1. Бывае ж у людзей часовая амнезія.

Самае ж абсурднае, супраць законнае ў дзеяннях камісій усіх узроўняў пачало адбывацца пасля выдалення.

Раніцай 20 верасня ў акруговай камісіі зарэгістраваў скаргу з патрабаваннем аднаўлення права назіраць на Гагарынскім участку і ў поўдзень прадставіў ва ўчастковую камісію законную выпіску з пратакола палітычнай структуры аб назіранні на Гагарынскім участку №36. Але аказалася, што з'явіўся "акт" ад Юрыя Дударава, Наталлі Ляўшовай, Алёны Кажэкі і аднагалоснае "рашэнне" Гагарынскай камісіі ад выдаленні назіральніка да канца выбараў пра якое учора нічога не ведаў старшыня камісіі. Пётр Праcолаў адмовіўся рэгістраваць выпіску, а таксама праз гадзіну адмовіўся рэгістраваць заяву аб азнаямленні з матэрыяламі разгляду скаргі. Мяркую на той час і паказваць не было чаго.

Аб незаконных дзеяннях Гагарынскай камісіі, яе старшыні у той жа дзень быў зроблены запіс у кнізе заўвагаў Гарадоцкага райвыканкама, а таксама праінфармаваны пракурор раёна Міхаіл Пацееў аб масавых фактах парушэння заканадаўства: ад адмовы рэгістраваць звароты да падробкі выбарчых дакументаў. Наступным днём таксама было дадзена тлумачэнне аб парушэннях патрабаванняў заканадаўства ў дзейнасці Гагарынскай камісіі начальніку аддзела аховы грамадскага парадка і прафілактыкі Гарадоцкага РАУС Аляксею Макаранка.

Абсурднасць працягвалася і ва акруговай камісіі 22 верасня, куды наведаўся для рэгістрацыі дзвюх скаргаў на незаконныя рашэнні Гагарынскай камісіі і трох скаргаў, якія раней былі накіраваны ў Цэнтрвыбаркам, але ніяк у век сучасных тэхналогій не былі дастаўлены ў Віцебск. Старшыня Аляксандр Красоўскі прадставіў някчэмнае сваё рашэнне, што скарга аб выдаленні па акту №2 , пададзеная 20 верасня ўжо разглядалася... 19 верасня намеснікам старшыні камісіі Васілём Аўтуховым.

Скаргу аб такіх абсурдных дзеяннях старшыні Аляксандра Красоўскага раніцай 23 верасня атрымаў Цэнтрвыбаркам. Рашэнне Лідзіі Ярмошынай у сваёй абсурднасці не саступае рашэнню акруговай камісіі. Не разглядаючы скаргу ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўства старшыня Цэнтрвыбаркама прыняла рашэнне спыніць "перапіску", бо кваліфікавала першую скаргу, як паўторны зварот. Пры гэтым кампетэнтныя юрысты пабльталі артыкулы закона аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, тлумачачы гэтую адмову.

Акруговая ж камісія №21 24 верасня ўстанавіла вынікі выбараў па акрузе без разгляду скаргаў на рашэнні Гагарынскай камісіі, парушаючы патрабаванні выбарчага заканадаўства. Накіраваныя ж скаргі на розныя парушэнні беларускага заканадаўства з боку акруговай камісіі Цэнтрвыбаркамам у адведзеныя тэрміны не разгледжаны. Аб гэтых самаўпраўных дзеяннях Лідзіі Ярмошынай прінфармавана Генеральная пракуратура.

Ці будзе плён у адстойванні права назіраць на Гагарынскім участку пакажа час. Але дзеянні службовых асобаў розных камісій трапна характарызуюцца народнай прымаўкай: што хачу, то і варачу. Заканадаўства патрабуе адно, а нашы чыноўнікі дзейнічаюць па сваіх паняццях. Больш падрабязна чытайце ў рубрыцы "Хроніка змагання за права"

**Леанід Гаравы.**

КРЫМІНАЛ

## П'ЯНЫЯ ЗАБОЙЦЫ

Паводле інфармацыі Гарадоцкай пракуратуры за 8 месяцаў 2012 г. на тэрыторыі раёна зарэгістравана два забойствы. Варта адзначыць, што ўсе забойствы адбыліся на глебе п'янства, ахвярамі якіх ў абодвух выпадках сталі асобы састарэлага ўзросту.

У першым выпадку гр-н М., будучы ў стане алкагольнага ап'янення, знаходзячыся па месцы жыхарства ў сваім доме, на глебе асабістых непрыязных адносін, якія ўзніклі ў выніку сваркі падчас сумеснага распіцця спіртных напояў са сваім бацькам вырашыў паквітацца з ім. Гр-н М., дзейнічаючы з асаблівай жорсткасцю, нанёс свайму бацьку не менш дваццаці удараў нагамі ў галаву і тулава, прычыніўшы яму цялесныя пашкоджанні, ад якіх той сканаў на месцы.

Абвінавачаны гр-н М., 1968 года нараджэння, нарадзіўся ў Гарадку, меў сярэднюю адукацыю, але быў халасты, раней неаднаразова судзімы. Пры гэтым ён неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за ўчыненне адміністрацыйных правапарушэнняў на глебе п'янства. Гр-н М. быў на ўліку ва ўрача-псіхіятра УЗ "Гарадоцкая ЦРБ" у сувязі са спробай скончыць жыццё самагубствам. Пры гэтым забойца з дыягназам -- сіндром залежнасці ад алкаголю – стаяў на ўліку і ва ўрача-нарколага.

Другое забойства здейсніў дваццацічатырохгадовы Аляксандр (імя зменена), калі знаходзіўся ў доме свайго знаёмага. Прыняўшы значную дозу алкаголю ён дзейнічаў на глебе асабістых непрыязных адносін, бо знаёмы адмовіўся даць яму грошаў. З мэтай супрацьпраўнага пазбаўлення жыцця загадзя для яго састарэлага грамадзяніна Аляксандр з асаблівай жорсткасцю нажом нанёс загінаўшаму не менш дзесяці удараў па тулаву. Калі пацярпелы ад шматлікіх колата-рэзаных ранаў сканаў, то забойца выкраў з яго нагрудный кішэні каля двухсот тысяч рублёў.

Абвінавачаны быў раней судзімы, неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за ўчыненне адміністрацыйных правапарушэнняў на глебе п'янства. Таксама Аляксандр быў на ўліку ва ўрача-псіхіятра з дыягназам лёгкая разумовая адсталасць.

Абодва забойствы следствам кваліфікаваныя па ч. 2 арт. 139 КК Рэспублікі Беларусь, санкцыя якой прадугледжвае пакаранне ад 8 гадоў да 25 гадоў пазбаўлення волі або пажыццёвае зняволенне або смяротную кару.

gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/vlast/prokuratura/news_prokur

**Т. Гаражанка.**

ПАЧАТАК ГАЛАСАВАННЯ

## ФАТАГРАФАВАННЕ І ЗВАНОК - ЁСЦЬ ДЭСТАБІЛІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ КАМІСІІ

Пачатак датэрміновага галасавання на Гагарынскім выбарчым участку №36 распачаўся з абвінавачанняў назіральніка Леаніда Гаравога ў "дэстабілізацыі працы участковай камісіі". Менавіта такія абвінавачанні выставіў старшыня камісіі Пётр Праcолаў да назіральніка БСДП(Грамада) спадара Гаравога.

Леанід Гаравы перад пачаткам датэрміновага галасавання з месца, адведзенага для назіральнікаў, зрабіў пару здымкаў агульнай панарамы выбарчага участка. Гэта было заўважана членам камісіі Нінай Леванчук, якая заявіла, што "Гаравы вас сфатаграфаваў!". Пасля гэтага звароту Леванчук старшыня камісіі Пётр Праcолаў запатрабаваў выдаліць з фотаапарата здымкі камісіі, бо фатаграфаванне на участку «дэстабілізуе працу участковай камісіі, а назіральнік за гэта будзе выдалены з участка».

Леанід Гаравы не пагадзіўся з такім разуменнем старшыні камісіі нормаў адкрытасці і галоснасці на Гагарынскім участку і запатрабаваў кнігу прапаноў і заўваг. Але пададзеная праз дзесяць хвілін кніга заўваг і прапаноў аказалася ні пранумараванай, ні прашытай, ні апячатанай. Пра гэта і зрабіў назіральнік першы запіс у кнізе заўвагаў. Але Пётр Праcолаў пасля таго, як сакратар выправіла недахопы на вядзенню кнігі заўвагаў даў каманду не даваць кнігу заўвагаў назіральніку.

Назіральнік ад БСДП(Грамада) Леанід Гаравы быў вымушаны патэлефанаваць у акруговую камісію дзеля інфармавання аб самаўпраўных дзеяннях старшыні камісіі. Пры тэлефанаванні Пётр Праcолаў стаў патрабаваць, каб гэта рабілася за межамі памяшкання для галасавання, бо званок з участка таксама "дэстабілізуе працу участковай камісіі, а назіральнік за гэта будзе выдалены з участка."

Але ўрэшце-рэшт старшыня супакоіўся і пасля прапановы -- напісаць распараджэнне наконт выдалення назіральніка з участка -- прадставіў кнігу для заўваг і прапаноў. Леанід Гаравы заявіў у кнізе шэраг скаргаў наконт неправамоцных дзеянняў старшыні камісіі па абмежаванню адкрытасці і галоснасці на ўчастку. У прыватнасці таксама нагадаў пра прадстаўленне копіі рашэння на заяву аб прадстаўленні праў назіральніка назіраць за выдачай бюлетэняў, ходам галасавання, выкананнем вызначанага Кодэксам парадка галасавання.

Бо нягледзячы на тое, што Гагарынская камісія змяніла месца дыслакацыі, яна па ранейшаму месціцца на маленькай плошчы фае спартовага зала. Пры гэтым мусіць спецыяльна для назіральнікаў адведзена месца з якога яны бачаць толькі спіны выбаршчыкаў і не бачаць, колькі з іх знаходзіцца ў кабіне для таемнага галасавання.

Адно пакуль палягчае сітуацыю, што за шэсць гадзін толькі 24 выбаршчыка прыйшло на датэрміновае галасаванне.

**Л. Антонаў.**

*Аб'ява*

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**
**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.**
**Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.**
**Рэдакцыя шукае дабраахвотных распаўсюджвальнікаў газеты "Гасцінец", а таксама аўтараў публікацый. Магчыма узаемавыгаднае супрацоўніцтва. Звяртацца на тэлефон рэдакцыі.**

ХРОНІКА ЗМАГАННЯ ЗА ПРАВА

# НАЗІРАЛЬНІК ВЫДАЛЕНЫ З ВЫБАРЧАГА ЎЧАСТКА

**Леанід Гаравы назіральнік ад БСДП(Грамада) і ад БХК на Гагарынскім выбарчым участку №36 быў выдалены з участка рашэннем старшыні камісіі Пятра Прасолава. Пазбаўленне праў назіраць адбылося 19 верасня каля 17 і суправаджалася парушэннем патрабаванняў выбарчага заканадаўства.**

Назіральнік з дадзеным рашэннем не згодны, бо у адпаведнасці з палажэннямі артыкула 13 Выбарчага кодэкса назіральнік мае права не толькі знаходзіцца ў памяшканні для галасавання, але і ў праве назіраць за выдачай бюлетэняў, ходам галасавання і захаваннем устаноўленага Кодэксам парадку галасавання.

Старшынёй камісіі месца знаходжання назіральнікаў на ўчастку для галасавання было адмыслова вызначана такім чынам, каб назіральнікі не змаглі ў поўнай меры рэалізаваць гарантаванае Кодэксам права.

Леанід Гаравы на мінулым тыдні пісьмова звярнуўся да старшыні камісіі з заявай, у якой прасіў прыняць меры для аднаўлення правоў назіральнікаў назіраць за выдачай бюлетэняў, ходам галасавання і захаваннем устаноўленага Кодэксам парадку галасавання. У адказ атрымаў адпіску за подпісам сакратара камісіі Наталлі Гамзюк пры тым, што адпаведна Пастановы ЦВК правам подпісу адказу на зварот валодае толькі старшыня камісіі або яго намеснік. Сакратар наогул заявіла, што пытанні рэалізацыі праў назіральнікаў на участку не ўваходзяць у кампетэнцыю (?!) участковай камісіі.

Неаднаразовыя вусныя звароты да старшыні і сакратара камісіі з просьбай змяніць месца знаходжання назіральнікаў для рэалізацыі імі права на назіранне пад час пачаўшагася датэрміновага галасавання засталіся не пачутымі. Тады 19 верасня 2012 назіральнік пісьмова праінфармаваў кіраўніцтва камісіі аб тым, што ў мэтах рэалізацыі права на назіранне будзе знаходзіцца ў адзіным месцы на ўчастку для галасавання з якога магчыма рэалізаваць права на назіранне. Пры гэтым Леанід Гаравы заявіў, што не будзе перашкаджаць працы камісіі і правядзенню галасавання і пасля гэтага заняў месца паміж сталамі для выдачы бюлетэняў і кабінамі для тайнага галасавання. Дадзенае месца назіральнік займаў дзве гадзіны і ніякіх перашкодаў працы камісіі, ходу галасавання не чыніў.

Пасля 16 гадзін знаходжанне назіральніка ў дадзеным месцы старшынёй камісіі былі расцэнены як перашкода нармальнай працы выбарчай камісіі і ён запатрабаваў, каб назіральнік пакінуў памяшканне. На просьбу Леаніда Гаравога выдаць адпаведнае распараджэнне, як патрабуе заканадаўства, адказаў адмовай і выклікаў дзяжурнага міліцыянта для выдалення назіральніка. На зварот Леаніда Гаравога прадставіць кнігу заўваг і прапаноў для запісу аб выдачы распараджэння Пётр Прасолаў адказаў адмовай. Законапаслухмяны назіральнік быў вымушаны па мабільнаму тэлефону звяртацца да старшыні акруговай камісіі №21 Аляксандра Красоўскага, звяртацца ў саму акруговую камісію, тэлефанаваць у Цэнтрвыбаркам. Толькі пасля гэтага Леаніду Гаравому быў выдадзены акт № 2 без даты, без подпісаў, у якім пазначана, што рашэннем старшыні камісіі яго выдаляюць з участку для галасавання.

Леанід Гаравы лічыць, што пры такіх абставінах, рашэнне старшыні камісіі Прасолава П.І. нельга прызнаць законным і абгрунтаваным і будзе абскарджваць яго ў Віцебскай сельскай акруговай камісіі.

**Л. Антонаў.**

# Падробка дакументаў і ігнараванне нормаў права

**На Гагарынскім участку №36 назіральнік Леанід Гаравы сутыкнуўся з падробкай дакументаў камісіі і ігнараваннем старшынёй камісіі нормаў беларускага заканадаўства.**

20 верасня Леанід Гаравы зарэгістраваў у Віцебскай сельскай акруговай камісіі скаргу на незаконныя і неабгрунтаваныя дзеянні старшыні Гагарынскай камісіі Пятра Прасолава паводле якіх ён быў выдалены з участка. Пры вяртанні на Гагарынскі участак назіральнік даведаўся, што яго чакаюць "адказы" камісіі на звароты і скаргі аб парушэнні права назіральніка.

Самым цікавым аказалася паведамленне камісіі аб тым, што Гаравы выдалены з участка да канца выбараў дэпутата Палаты. Пры гэтым камісія спасылалася на акт выраблены намеснікам старшыні камісіі Юрыем Дударавым у 11.25, калі ён знаходзіўся за межамі участка. Дарэчы, ў гэты час члены камісіі Наталля Ляўшова і Алёна Кажэка ніякіх складанасцей ад знаходжання назіральніка паміж сталамі выдачы і кабінамі для таемнага галасавання не мелі. Наогул, днём раней Леанід Гаравы патрабаваў ад старшыні камісіі Пятра Прасолава менавіта такі акт, калі той пагражаў выдаліць з участка праз выкліканне нарада міліцыі. І толькі зварот у акруговую камісію і Цэнтрвыбаркам прывёў да таго, што праз паўгадзіны такі акт з'явіўся. Пра рашэнне ж камісіі і паведамленне на той момант старшыня камісіі нічога не ведаў і не казаў.

У гэтай сітуацыі Леанід Гаравы прапанаваў старшыні камісіі зарэгістраваць выпіску з рашэння Віцебскай абласной рады БНФ аб накіраванні яго назіральнікам на Гагарынскі участак. Заканадаўства Беларусі аб зваротах грамадзян абавязвае дзяржаўныя органы рэгістраваць усе звароты і даваць на іх адказы. Але для Пятра Прасолава гэтыя нормы закона, мусіць, не дзейнічаюць. Старшыня камісіі адмовіўся зарэгістраваць выпіску аб накіраванні назіральніка.

Яшчэ большую прававаю непісьменнасць Пётр Прасолаў прадэманстраваў, калі праз гадзіну Леанід Гаравы звярнуўся да яго з заявай аб азнаямленні з матэрыяламі разгляду сваёй скаргі.Норма арт. 49-1 гарантуючая гэта права заяўніку была старшынёй камісіі далёка паслана і ён зноў адказаў адмовай.

Ва ўмовах, калі на Гагарынскім участку камісія дзейнічае па сваіх непісьменных паняццях, а не нормах закону Леаніду Гараваму нічога не засталося, як звяртацца ў вышэйстаячую камісію. Назіральнікам падрыхтаваны і дасланы ў Цэнтрвыбаркам скаргі на рашэнні старшыні Пятра Прасолава, якія пазбаўляюць яго права азнаёміцца з матэрыяламі разгляду скаргі, так і зарэгістраваць выпіску рашэння аб накіраванні назіральнікам. Адначасова з гэтым Леанід Гаравы зрабіў адпаведны запіс у кнізе заўваг і прапаноў Гарадоцкага райвыканкама, а таксама паведаміў аб парушэнні нормаў беларускага заканадаўства, правоў назіральніка пракурору Гарадоцкага раёна Міхаілу Пацееву.

**Л. Антонаў.**

# ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА ПАРУШАЕ БЕЛАРУСКАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

**Леанід Гаравы, актывіст Руху "За Свабоду", назіральнік на Гагарынскім участку №36 атрымаў неправамоцнае рашэнне Цэнтрвыбаркама на скаргу аб аднаўленні праў назіральніка, якое прыйшло да яго па электроннай пошце пасля завяршэння галасавання.**

Леаніда Гаравога даўно не здзіўляе прававаая няпісьменнасць, ігнараванне беларускага заканадаўства як з боку участковых камісій, так і акруговых, але такую някчэмную адпіску ён атрымаў з Цэнтрвыбаркама упершыню. 23 верасня раніцай назіральнік накіраваў абгрунтаваную скаргу на абсурднае рашэнне Віцебскай сельскай акругі №21, якой кіруе Аляксандр Красоўскі – вылучэнец ад КПБ. Ўкладнее абсурдным з'яўляецца рашэнне прадстаўленае старшынёй камісіі Красоўскім, які заняўся самаўпраўствам у акруговай камісіі. Парушаючы патрабаванне артыкула Выбарчага кодэксу аб тым, што скаргі на рашэнні камісіі разглядаюцца на паседжаннях камісіі старшыня самаўпраўна прыняў рашэнне.

У прававаой краіне такое самаўпраўства дзяржаўнага службоўцы стала бы падставай для прыцягнення да крымінальнай адказнасці, а таксама пазбаўлення паўнамоцтваў члена акруговай камісіі. Толькі мусіць не пра нормы прававаой дзяржавы і павагу да беларускага заканадаўства турбавалася Лідзія Ярмошына, калі ў дзень выбараў даслала не менш абсурднае рашэнне Цэнтрвыбаркама.

Па-першае, старшыня Цэнтрвыбаркама будучы пад уплывам дня выбараў першапачатковую скаргу на рашэнне акруговай камісіі палічыла "паўторным зваротам". Мусіць складана ўжо Лідзіі Ярмошынай лічыць, таму і першую скаргу называе паўторным зваротам. Па-другое, старшыня ніякім чынам не аргументавала, не разглядала ніводнага факта выкладзенага ў скарзе. Па-трэцяе, спаслалася на норму закона аб зваротах грамадзян, якая гучыць не як норма права на спыненне перапіскі, а як норма рэгістрацыі і прыёма зваротаў. Па-чацвёртае, сама Ярмошына парушала форму рашэння камісіі на скаргу, якую Цэнтрвыбаркам зацвердзіў сваімі пастановамі для участковых і акруговых камісій. Па-пятае, старшыня Цэнтрвыбаркама не палічыла патрэбным растлумачыць парадак абскарджвання рашэння Цэнтрвыбаркама.

Атрымаўшы неправамоцнае рашэнне Леанід Гаравы накіраваў скаргу да Цэнтрвыбаркама з патрабаваннем адмены рашэння Лідзіі Ярмошынай поўнасцю і прадстаўлення рашэння па сутнасці на пададзеную скаргу.

**Л. Антонаў.**

ВУЧОНЫЯ ГАРАДОЧЧЫНЫ

# Наш зямляк прагназуе змены клімата Беларусі

**Акадэмік Уладзімір Логінаў, ураджэнец в. Зялёнаўка Гарадоцкага раёна, з'яўляецца вядучым спецыялістам краіны па прагназаванню зменаў клімата ў Беларусі. Буйнешае выданне краіны "Камсамольская праўда ў Беларусі" апублікавала інтэрв'ю з акадэмікам аб анамаліях надвор'я.**

Па даведцы «КП» Уладзімір Фёдаравіч Логінаў - акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар геаграфічных навук, прафесар. Нарадзіўся 8 сакавіка ў 1940 годзе ў вёсцы Зеляноўка Гарадоцкага раёна. У 1963-ем скончыў Ленінградскае вышэйшае інжынернае марское вучылішча ім. С. А. Макарава. Працаваў навуковым супрацоўнікам Сусветнай метэаралагічнай арганізацыі ААН у Жэневе. У 1997 - 2008 гг. дырэктар Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. З 2008 года галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута прыродакарыстання Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У 1995-2002 гадах загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, з 2006 г. загадчык кафедры Міжнароднага экалагічнага універсітэта імя. А.Д.Сахарава.

Лаўрэат дзяржаўнай прэміі і двойчы лаўрэат прэміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Аўтар больш за 500 навуковых прац у галіне дыягназу і прагнозу змены клімату і геаэкалогіі.

У інтэрв'ю выданню акадэмік Логінаў тлумачыць анамаліі надвор'я апошніх гадоў глабальным пацяпленнем. Акадэмік на пытанне, што адбываецца з кліматам пацяпленне ці пахаладанне, тлумачыць: "У геалагічным маштабе часу, дзе гаворка ідзе пра тысячагоддзях, на зямлі сапраўды ідзе пахаладанне клімату. Але з вельмі маленькай хуткасцю! Калі ж паглядзець клімат за меншы адрэзак часу - апошнія 100 гадоў, то ў нас ідзе пацяпленне, хуткасць якога ў 200 разоў больш хуткасці пахаладання. Таму маюць рацыю і тыя, і іншыя. Анамальна высокая тэмпература на планеце назіраецца ў апошнія 10 - 15 гадоў. Цяпер рост тэмпературы запаволіўся. Ці будзе чарговы скачок ў змене тэмпературы, пакажа час ..."

На пытанне журналісткі Дар'і Ламаноўскай: "Дарэчы, сіноптыкі, кажуць, што праз 60 гадоў у нас будзе клімат, як у Турцы. Гэты доўгатэрміновы прагноз можа апраўдацца?" вучоны выказвае такое меркаванне: " Гэта выключана. У нас да канца стагоддзя можа быць клімат раёна Кіева. За чвэрць стагоддзя ў Беларусі тэмпература падымецца на 1 градус. Так што да клімату Турцыі нам яшчэ далёка."

Поўнасцю з інтэрв'ю магчыма азнаёміцца па дадзенай гіперспасылцы: www.kp.ru/daily/25953.3/2894503/

**Т. Гаражанка.**

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

# ЖАНЧЫНЫ ВЫРАТАВАЛІСЯ, А ГАСПАДАР ЗАГІНУЎ

**На пажары ў в. Сяльцо Першамайскага сельсавета пенсіянерка і яе дачка былі выратаваны дзякуючы спрацоўцы пажарнага апавяшчальніка. Гаспадар дома загінуў.**

Паводле інфармацыі прэс-службы МНЗ Беларусі 26 верасня ў 00 гадзін 26 хвілін у службу выратавання па лініі «101» паступіла паведамленне аб пажары ў прыватным доме ў в Сяльцо.

Па прыбыцці да месца выкліку падраздзяленняў МНЗ назіралася адкрытае гарэнне драўлянага жылога дома. Адбылося абвальванне даху і столевага перакрыцця. Жонка гаспадара, жанчына 1932 г.н. і яго дачка 1961 г.н. пакінулі палаючы дом самастойна пасля таго, як пачулі сігнал аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка.

У доме заставаўся гаспадар дома, пенсіянер 1940 г.н. У 00.57 пажар быў лакалізаваны, у 01.07 - ліквідаваны. Праз дзве гадзіны пад слоем элементаў даху і столевага перакрыцця ратавльнікі знайшлі цела гаспадара.

У выніку пажару ў доме знішчаны дах, столевае перакрыцце, маёмасць, пашкоджаны сцены. Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Т. Гаражанка.**

ПАЗІЦЫЯ АБСЕ

# “ВЫБАРЫ – КАЛІ ЛЮДЗІ СВАБОДНА ВЫКАЗВАЮЦЦА. ГЭТАГА МЫ НЕ БАЧЫЛІ”

ЗАТОЕ НАЗІРАЛЬНІКІ АБСЕ ЗВЯРНУЛІ ЎВАГУ НА ВЯЛІКУЮ КОЛЬКАСЦЬ ЛАЯЛЬНЫХ ДА ЎЛАДАЎ СЯБРАЎ У СКЛАДЗЕ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ. СПЕЦЫЯЛЬНЫ КААРДЫНАТАР КАРОТКАТЭРМІНОВАЙ МІСІІ НАЗІРАННЯ ЗА ВЫБАРАМІ АБСЕ МАТЭА МЕКАЧЫ КАНЧАТКОВАЙ АЦЭНКІ ПАРЛАМЕНЦКІМ ВЫБАРАМ У БЕЛАРУСІ ПАКУЛЬ НЕ ДАЎ. АЛЕ ПАПЯРЭДНІЯ ВЫСНОВЫ ЗРАБІЎ, ПАВЕДАМЛЯЕ ЕЎРАРАДЫЁ.

**Матэа Мекачы:** «Выбары - гэта калі людзі могуць свабодна праматўляць і арганізоўвацца. Мы гэтага не бачылі ў гэтай кампаніі. Прававая база не гарантуе таго, што выбары будуць праведзеныя ў адпаведнасці з абавязальніцтвамі АБСЕ. Былі праблемы з адвольнасцю праверкі подпісаў, а таксама не хапала нейтральнасці ў арганізацыі выбараў. Больш за 96% месцаў у камісіях займалі лаяльныя да ўраду грамадскія арганізацыі і партыі».

Асаблівую ўвагу прадстаўнік АБСЕ звярнуў на немагчымасць удзельнічаць у выбарах вядомых па прэзідэнцкіх выбарах палітыкаў.

**Матэа Мекачы:** «Вядомыя палітычныя дзеячы, якія маглі адыграць ролю на гэтых выбарах, яны альбо знаходзіліся ў турме, альбо ім было адмоўлена ў рэгістрацыі, альбо з-за судзімасці, альбо – з-за адвольных адміністрацыйных дзеянняў. І з-за таго, што была такая абмежаваная канкурэнцыя, і выбар выбаршчыкаў быў абмежаваны».

Што тычыцца пазітыву, то Матэа Мекачы адзначыў тэледэбаты. Але звярнуў увагу на тое, што яны былі не ў прамым эфіры, а ў запісы. І тое, што частка з іх была адцэнзуравана, а частка – увогуле не выйшла ў эфір з-за таго, што кандыдаты заклікалі да байкота выбараў.

У сваю чаргу кіраўнік дэлегацыі назірання за выбарамі АБСЕ/БДІПЧ Антоніа Мілашоскі заявіў, што не пабачыў, каб парламенцкія выбары ў Беларусі былі праведзеныя ў адпаведнасці са стандартамі АБСЕ.

Нагадаем, напярэдадні старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына параіла назіральнікам АБСЕ ацэньваць беларускія выбары не толькі з пазіцыі «ведамаснай інструкцыі».

ШТО АТРЫМАЛІ

## ЕЎРАПАРЛАМЕНТ НЕ ЗМОЖА АДНАВІЦЬ АФІЦЫЙНЫЯ АДНОСІНЫ З НОВАЙ ПАЛАТАЙ ПРАДСТАЎНІКОЎ

«Я ГЛЫБОКА ШКАДУЮ, ШТО ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ Ў БЕЛАРУСІ Ў ЧАРГОВЫ РАЗ НЕ АДПАВЯДАЛІ МІЖНАРОДНЫМ СТАНДАРТАМ СПРАВЯДЛІВАГА І ПРАЗРЫСТАГА ВЫБАРЧАГА ПРАЦЭСУ», - ЗАЯВІЎ КІРАЎНІК ЕЎРАПАРЛАМЕНТА МАРЦІН ШУЛЬЦ.

Тэкст заявы размешчаны на афіцыйным сайце кіраўніка ЕП. «У сітуацыі, калі лідэры апазыцыі застаюцца ў турме, калі некаторым апазіцыйным кандыдатам адмоўлена ў рэгістрацыі, а народу затыкаюць рот, адбылася насмешка над дэмакратычнымі выбарамі», - сказаў Шульц.

Паводле яго слоў, выбары ў Беларусі былі «азмрочаныя абмежаваннямі доступу да СМІ, перашкодамі, якія чыніліся міжнародным назіральнікам пры кантролі за падлікам галасоў, а таксама паведамленнямі пра ціск на розныя групы выбаршчыкаў».

Беларусь, падкрэсліў Шульц, паранейшаму ідзе па недэмакратычнаму шляху, пазбаўляючы сваіх грамадзян грамадзянскіх правоў і правоў карыстацца перавагамі больш цеснага супрацоўніцтва з Еўрасаюзам. «Я шкадую, што ў гэтай сітуацыі Еўрапарламент не зможа аднавіць афіцыйныя адносіны з беларускім парламентам. Я ўжо даўно страціў ілюзіі адносна добрай волі беларускага кіраўніцтва ўзяць на сябе абавязацельствы для таго, каб правесці дэмакратычныя рэформы», - сказаў Шульц.

Кіраўнік Еўрапарламента падкрэсліў, што Еўразвяз павінен, нарэшце, распрацаваць эфектыўную стратэгію адносін з Беларуссю, гэта значыць «вырашыць, як цвёрда рэагаваць на абуральныя парушэнні правоў чалавека і вяршэнства закона і як падтрымліваць беларускі народ і яго грамадзянская супольнасць, якое змагаецца з многімі цяжкасцямі».

Недэмакратычнымі названы парламенцкія выбары і ў папярэдняй справаздачы прадстаўнікоў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ), які былі прэзентаваны 24 верасня ў Мінску. «Многія абавязацельствы ў рамках АБСЕ па дэмакратычных правах грамадзян на свабоднае вылучэнне кандыдатаў і магчымасць свабодна выказваць меркаванне не былі выкананы», - гаворыцца ў дакуменце. Гэта, на думку назіральнікаў, падрываe давер да мінулай выбарчай кампаніі.

**«БелаПАН».**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

## АДМІНІСТРАЦЫЯ МАЗЫРСКАЙ КАЛОНІІ ПАГРАЖАЕ ДАШКЕВІЧУ ЗГВАЛТАВАННЕМ

ЛІДЭР ЗАРЭГІСТРАВАНАГА Ў ЧЭХІІ «МАЛАДОГА ФРОНТУ» ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ ЎЖО 7 ДЗЁН ТРЫМАЕ ГАЛАДОЎКУ Ў КАРЦЭРЫ МАЗЫРСКАЙ КАЛОНІІ. 27 ВЕРАСНЯ СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ЧЫННІКІ ГЭТАГА РАШЭННЯ. ІХ АГУЧЫЛА НЯВЕСТА ПАЛІТВЯЗНЯ, НАМЕСНІК СТАРШЫНІ АРГАНІЗАЦЫІ АНАСТАСІЯ ПАЛАЖАНКА.

Як паведамляе прэс-служба «Маладога Фронту», пры першай жа сустрэчы з Дашкевічам начальнік калоніі стаў нецэнзурна абражаць і зневажаць палітвязня. У тым ліку, і ціск аказваўся і па рэлігійнай прыкмеце.

Палітвязень знаходзіцца ўсяго тыдзень у Мазырскай калоніі, аднак у дачыненні да яго ўжо некалькі разоў збіралася турэмная камісія, якая пазбавіла Дзмітрыя Дашкевіча ўсіх спатканняў і зрабіла вымову.

У барак, дзе жыве каля 40 чалавек, прыйшоў рэжымны супрацоўнік і знайшоў на стале чыёсьці лязо. Нягледзячы на тое, што лязо не прыналежыла Дашкевічу, адміністрацыя калоніі пагражала паставіць яго на ўлік як суіцыдніка.

Пасля ўсіх здзекаў Дзмітрый Дашкевіч напісаў заяву аб тым, што пачынае галадоўку. Начальнік рэжымнага аддзела яго скамячыў і выкінуў, пры гэтым пагражаючы лідэру «Маладога Фронту» згвалтаваннем іншымі вязнямі.

Пасля гэтых і многіх іншых інцыдэнтаў Зміцер адмовіўся выконваць любыя загады, і яго адправілі зноў на камісію, дзе далі новы тэрмін у СІЗА. Лідэр «Маладога Фронту» не збіраецца спыняць галадоўку, пакуль да яго не зменіцца стаўленне адміністрацыі калоніі.

– Дзмітрый Дашкевіч у калоніі ўсяго тыдзень. Што можа быць далей – цяжка ўявіць ... У гутарцы са мной начальнік рэжымнага аддзела прыгразіў, што калі нешта выйдзе ў СМІ – Дашкевічу будзе горш. Але я не бачу іншага варыянту, акрамя агучвання гэтых жудасных рэчаў, - заявіла Анастасія Палажанка.

28 жніўня лідэру «Маладога фронту» дадалі яшчэ год за кратамі. Яго абвінавацілі ў непадпарадкаванні адміністрацыі выпраўленчай установы. Дашкевіч знаходзіцца ў турме са снежня 2010 года. У сакавіку 2011 года яго асудзілі на два гады пазбаўлення волі калоніі агульнага рэжыму нібыта за збіццё двух чалавек.

ГАНДАЛЬ ВЯЗНЯМІ

## ВЫЗВАЛЕННЕ КАВАЛЕНКІ — СПРОБА НЕЙТРАЛІЗАВАЦЬ МАГЧЫМЫЯ НОВЫЯ САНКЦЫІ ЕС

ВЫЗВАЛЕННЕМ ВІЦЕБСКАГА АПАЗІЦЫЯНЕРА СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКІ БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ СПРАБУЮЦЬ ТАРГАВАЦЦА З ЕЎРАСАЮЗАМ. ТАКОЕ МЕРКАВАННЕ ВЫКАЗАЎ ПАЛІТОЛАГ ВАЛЕРЫЙ КАРБАЛЕВІЧ.

«Перад беларускімі ўладамі стаяць дзве задачы. Па-першае, неабходна нейтралізаваць негатыўную ацэнку выбараў у Беларусі з боку еўрапейскіх структур. Па-другое, пазбегнуць магчымага прыняцця новых санкцый ЕС адносна Беларусі», — сказаў Карбалевіч.

Ён нагадаў, што беларускае пытанне будзе разглядацца Саветам міністраў замежных спраў Еўрасаюза ў сярэдзіне кастрычніка. «Каб вырашыць гэтыя дзве задачы, і зроблены такі прэвентыўны крок. Тым больш, Каваленка сам напісаў прашэнне аб памілаванні, — заўважыў палітолаг. — Думаю, што Захад цалкам гэта прыме.

Еўрасаюз зараз не зацікаўлены ў нейкіх новых негатыўных кроках адносна Беларусі.

Тым больш іх цяжка прыдумаць, а тут ёсць такая магчымасць сказаць, што, з аднаго боку, ёсць, вядома, канфлікт са Швецыяй, недэмакратычныя выбары, а з другога — вызвалілі чарговага палітзняволенага. Ёсць прычына яшчэ раз заявіць з усёй строгасцю, што трэба выконваць правы чалавека і вызваліць астатніх палітзняволеных».

Карбалевіч мяркуе, што ЕС можа абмежавацца такімі заявамі і больш не рабіць ніякіх рашучых дзеянняў. Калі ж вызвалення аднаго Каваленкі Захаду падасца недастаткова, то, зазначыў Карбалевіч, ёсць яшчэ Павел Сырамолатаў — адзін з анархістаў, асуджаных за спробу падпалу будынка КДБ у Бабруйску, які таксама напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі.

«Думаю, што ён — першы кандыдат на вызваленне, калі адным Каваленкам справа не абмяжуецца», — сказаў Карбалевіч. 27 верасня быў вызвалены і Павел Сырамолатаў.

**БелаПАН.**

РЭХА РАСТРЭЛУ

## МАЦІ РАССТРАЛЯНАГА УЛАДЗІСЛАВА КАВАЛЁВА ПАДАЛА НАГЛЯДНУЮ СКАРГУ

ЛЮБОЎ КАВАЛЁВА ПАДАЛА НАГЛЯДНУЮ СКАРГУ Ў ВЯРХОЎНЫ СУД 27 ВЕРАСНЯ. «СУДДЗЯ, ЯКІ НАС ПРЫМАЎ, ХАЦЕЛАСЯ Б ДУМАЦЬ, ШТО ЁН СУР'ЁЗНА ПАСТАВІЦЦА ДА ГЭТАЙ СПРАВЫ. АЛЕ ЁН НАВАТ НЕ ПАДЫМАЎ ВОЧЫ. МАШЫНАЛЬНА ПРАГЛЯДЗЕЎ, І ТО — ТОЛЬКІ ПАПЯРЭДНЮЮ. СКАЗАЎ, ШТО СКАРГА ПРЫНЯТАЯ», — КАЖА ЛЮБОЎ КАВАЛЁВА.

У скарзе больш за 50 старонак. Там пералічваюцца ўсе парушэнні крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

У дакуменце — згадваюцца хадайніцтвы адваката, якія адхіліў суд, парушэнні права на абарону, калі адваката не пускалі ў СІЗА. А таксама парушэнне права на абскарджанне, калі Кавалёву не далі магчымасці сустрэцца і падпісаць скаргу напярэдадні казні.

У скарзе ўказваюцца факты адсутнасці слядоў выбуховых рэчываў, дадаюцца стоп-кадры відэазапісу, які не дазволілі адвакату пракаментаваць у судзе, факты парушэння выемкі відэа з метро.

Любоў Кавалёва адзначае ў скарзе, што сваім рашэннем суд пасеяў у грамадстве страх недаверу да судовай сістэмы. Адказ на скаргу мусіць прыйсці на працягу месяца.

**Віталь Ругайн, Еўрарадыё.**

ПОГЛЯД

# УСЛУЖЛИВЫЙ ДУРАК

КОНЕЧНО, ЛУКАШЕНКО ОЧЕНЬ ХОТЕЛ, ЧТОБЫ ЭТИ ВЫБОРЫ БЫЛИ ПРИЗНАНЫ. ЕСЛИ ЕВРОПЕЙСКИХ НАБЛЮДАТЕЛЕЙ ПРИГЛАШАЮТ НА ВЫБОРЫ, А ПОТОМ ГЛАВЕ МИССИИ БДИПЧ ОБСЕ НЕ ПОЗВОЛЯЮТ ВИДЕТЬ, ПРАВИЛЬНО ЛИ ВЕДЕТСЯ ПОДСЧЕТ ГОЛОСОВ - ЭТО АБСУРД, КОТОРЫЙ ХОТЕЛОСЬ БЫ КАК-ТО ПОНЯТЬ.

Первая версия – про дураков: на избирательном участке не знали, кто к ним приехал. То есть спецслужбы объявили выборам бойкот, на все забили, реализовав, наконец, свою давнюю мечту заняться теми, кем раньше занимался ОБХСС – довольными режимом. Гуляйте себе, злые западники, куда хотите!... Это с одной стороны.

А с другой – Антонио Милошоски, прежде чем его к наблюдению допустили, комиссии бейджик должен был предъявить. На котором четко и ясно написано, кто он такой, этот интеллигент в очках. Можно спорить, нужно ли нашим избирательным комиссиям уметь считать, но читать, наверное, они все-таки умеют...

В общем, версия сомнительная.

Вторая гипотеза – про умных. Нашей власти, мол, выгодно, чтобы в Беларуси был парламент, не признанный Западом. И вообще конфронтация – лучшая для нее среда обитания. Потому что тогда и враг есть, на которого можно все списать, и напрягаться с проблесками демократизации не требуется, поскольку есть большое опасение, что любая маленькая трещина режима может дать большую течь. И далее в том же духе.

Очень лестной для Александра Лукашенко выглядит эта версия, так как базируется на мифе о его крутизне, однако я бы с подобными комплиментами не торопилась. Просто потому, что если бы версия была правильной, то не требовалось бы никаких сложных построений. Ну, не приглашали бы мы европейских наблюдателей на свои выборы, как изначально грозились, – вот и вся конструкция.

Боюсь, самой близкой к истине в нашей ситуации будет третья версия – про сегодняшних белорусов.

Конечно, Лукашенко очень хотел, чтобы эти выборы были признаны. И наверняка он планировал сделать как-нибудь так, чтобы ничего серьезно в белорусских выборах не менять, но чтобы у западных наблюдателей остались от увиденного самые лучшие впечатления. В конце концов, это ведь не его выбирали, не его уровни поддержки считали. Ну, увидел бы глава миссии ОБСЕ, придя на участок, что какой-то кандидат Пупкин проиграл кандидату Жупкину. И что? Даже если этот Пупкин - кандидат власти, так и Милошеску не Геката многоглавая, везде не поспеет. На одном участке Пупкин проиграл, на других - выиграл. Но обезоружили бы главу суровых наблюдателей ОБСЕ, позволив видеть подсчет, даже не жертвуя пешкой.

Так ведь нет! Надо было держать оборону, будто охраняешь главные секреты Родины! Надо было отгонять его от стола с бюллетенями, надо было утраивать все так, чтобы глава миссии наблюдателей не дай Бог не подсмотрел, сколько там голосов на самом деле отдано за несчастного Пупкина...

Надо было так накрутить провластных наблюдателей, чтобы они на глазах у всех вырывали у председателя участковой комиссии протокол, засвидетельствовавший, что выборы не состоялись... И чтобы потом с криками «Милиция-полиция!» прямо до окружной комиссии за этим протоколом неслись и наблюдатели ОБСЕ, и наши активисты... И чтобы уже в комиссии эту, на самом деле давно озвученную на аудио и видео бумажку, прятали, переписывали, меняли...

Ну, нет тут никакого здравого смысла, никакой логики, никакого предварительного умысла. Это экспромт. Это ум такой.

Просто у нас выстроена такая система государственного управления, что теперь – что бы там Лукашенко ни планировал в политике, в экономике, в спорте – обязательно найдется какой-нибудь осел, который перекурочит все планы, желая выслужиться. И все потому, что суть системы проста: чтобы каждый большой и маленький винтик послушно выполнял доведенную задачу-минимум. Иначе будет наказан.

Председателю избирательной комиссии велено дать нужный результат – и хоть Иисус Христос приди на участок – он отодвинет его от бюллетеней за кадку с пальмой. Тренеру скажут обеспечить медаль – так расстарается, что покалечит спортсмена тренировками. Главе Нацбанка дадут задание удерживать курс рубля – до обвала, до финансовой катастофы держать будет. Скажут военным везти технику на парад к главнокомандующему – оголят все границы, «слепыми» дежурные дивизионы оставят, но повезут...

Это и есть по-белорусски, это то, что наша власть старательно выстраивает – каждый винтик без разговоров выполняет свою задачу-минимум. Правда, выполняет так, что услужливый дурак становится опаснее врага.

**Светлана Калинкина.**

БЮДЖЭТНЫЯ ЗМЕНЫ

# НАСТАЎНІКАМ І ПАЦЫЕНТАМ МАЛА НЕ ПАДАСЦА

ЧАСЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ ШЧОДРАСЦІ СЫХОДЗЯЦЬ У МІНУЛАЕ. ЎРАД УЗЯЎ КУРС НА ЭКАНОМІЮ ДЗЯРЖВЫДАТКАЎ І Ў СУВЯЗІ З ГЭТЫМ У 2013 ГОДЗЕ ЗБІРАЕЦЦА РЭАЛІЗАВАЦЬ ШЭРАГ ПІЛОТНЫХ ПРАЕКТАЎ. ПЕРШЫЯ З ІХ БУДУЦЬ УВАСОБЛЕНЫ Ў ЖЫЦЦЁ Ў СІСТЭМЕ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ І АДУКАЦЫІ.

Мінфін чакае, што ў выніку іх укаранення адбудзецца «аптымізацыя штатаў» устаноў адукацыі і «аптымізацыя колькасці пацыентаў, якія накіроўваюцца на стацыянарнае лячэнне».

Скарачэнне выдаткаў 2013 год Беларусь пачне з бюджэтных рэформаў. Улады лічаць, што неабходна мяняць прынцыпы фінансавання сацыяльнай сферы. Калі казаць аб адукацыі, то рэфармаваць фінансаванне гэтага напрамку неабходна, на думку Мінфіна, па двух прычынах.

Па-першае, Беларусь саступае іншым краінам па колькасці вучняў на аднаго выкладчыка. Калі ў Еўропе на аднаго выкладчыка прыпадае больш за 11 вучняў, то ў нас - менш за дзевяць. Такая сітуацыя, паводле ацэнак Мінфіна, прыводзіць да таго, што на ўтрыманне бюджэтнай сеткі Беларусі прыходзіцца марнаваць больш сродкаў у параўнанні з еўрапейскімі дзяржавамі.

Мяркуецца, што з 2013 года пачнецца рэалізацыя пілотнага праекта па нарматыўнаму фінансаванню 17 устаноў сярэдняй адукацыі. Арганізацыі адукацыі, якія ўдзельнічаюць у праекце, будуць атрымліваць фінансаванне на аснове адзінага норматыву бягучых выдаткаў на аднаго вучня.

Паводле ацэнак Мінфіна, рэалізацыя гэтага праекта дасць магчымасць «паэтапна аптымізаваць штаты устаноў, якія ўдзельнічаюць у эксперыменце». Зразумела, што калі эксперымент будзе прызнаны паспяховым, да такой «аптымізацыі» прыйдзецца рыхтавацца працоўным калектывам і іншых устаноў адукацыі.

Яшчэ адзін цікавы пілотны праект, які будзе ўвасоблены ў жыццё ў 2013 годзе, закране сістэму аховы здароўя. Рэалізоўваць яго плануецца на базе арганізацый Мінска і Магілёўскай вобласці. Як адзначае Максім Ермаловіч, першая частка праекта «накіравана на ўдасканаленне ўмоў аплаты працы», а другая складаецца «ў аптымізацыі бюджэтных выдаткаў на лячэнне пацыентаў у стацыянары».

На думку намесніка міністра, «кірунак на стацыянарнае лячэнне не заўсёды бывае апраўданым як з эканамічнага, так і з лячэбнай пункту гледжання».

«Таму прапануецца перадаць частковае фондаўтрыманне ва ўстановах аховы здароўя на ўзровень паліклінік, што дасць магчымасць аптымізаваць колькасць пацыентаў, якія накіроўваюцца на стацыянарнае лячэнне», – мяркуе Максім Ермаловіч.

«Аптымізацыя штатаў» устаноў адукацыі напэўна прывядзе да таго, што многім супрацоўнікам школ прыйдзецца шукаць іншую працу. У той жа час «аптымізацыя бюджэтных расходаў на лячэнне пацыентаў у стацыянары», хутчэй за ўсё, справакуе рост нагрузкі на паліклінікі. «На дадзены момант паліклінікі і так перагружаны, і калі да іх фактычна дадаць яшчэ« дзённы стацыянар », то гэта яшчэ больш ўскладніць іх працу», - лічыць Глеб Шымановіч, эканаміст Даследчага цэнтра ІПМ.

Было б, напэўна, правільна, каб праекты рэформаў у сацыяльнай сферы, з якімі сёння выступае ўрад, выносіліся на публічнае абмеркаванне. Тое, што змены наспелі, зразумела. Аднак механізм іх рэалізацыі, калі справа датычыцца сацыяльнай сферы, неабходна ўзгадняць з грамадствам. Хоць бы таму, што дзяржслужачыя па аб'ектыўных прычынах далёка не заўсёды адэкватна ўспрымаюць сітуацыю ў сацыяльнай сферы.

Многія беларускія чыноўнікі, дарэчы, абслугоўваюцца ў спецыялізаванай клініцы (вядомай больш як «лечкамісія»), дзе чэргаў практычна няма і якасць абслугоўвання пацыентаў - на парадак вышэй. Таму, каб адэкватна разумець сітуацыю ў ахове здароўя і праводзіць рэформы па ўсёй краіне, дзяржслужачым не перашкаджала б часам кансультавацца з народам, які лечыцца ў звычайных паліклініках.

Гатоўнасць уладаў ісці на бюджэтныя рэформы эксперт звязвае не толькі з леташнімі падзеямі, але таксама і з надыходзячымі выплатамі па вонкавым абавязку. «У немалой ступені патрэба ў бюджэтных рэформах і пераход да новай сістэме бюджэтавання, арыентаванай на вынік, абумоўлены неабходнасцю ажыццяўлення значных выплат па вонкавым дзярждоўгу ў бліжэйшыя гады», - кажа аналітык Аляксандр Муха.

Па дадзеных Мінфіна, у 2013-2014 гг. Беларусі давядзецца пагасіць па вонкавым дзярждоўгу каля 6 млрд. долараў. «Маючыя адбыцца плацяжы прымушаюць больш эканомна падыходзіць да бюджэтных выдаткаў і накіроўваць іх толькі ў тыя праекты, якія рэальна могуць прынесці аддачу», - рэзюмаваў Аляксандр Муха.

*(Скарочана)*

**Дзмітрый Заяц, naviny.by.**

КАРУПЦЫЯ КВІТНЕЕ

# БЫВШИЙ ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ГОМЕЛЯ ЗА РЕШЕТКОЙ

В БЕЛАРУСИ ГРЯНУЛ ОЧЕРЕДНОЙ КОРРУПЦИОННЫЙ СКАНДАЛ. ПОД СТРАЖУ ЗАКЛЮЧИЛИ ЭКС-ПРЕДСЕДАТЕЛЯ ГОМЕЛЬСКОГО ГОРИСПОЛКОМА ВИКТОРА ПИЛИПЦА. КАК СООБЩАЕТ БЕЛАПАН СО ССЫЛКОЙ НА СЛОВА НАЧАЛЬНИКА ОТДЕЛА ИНФОРМАЦИИ И СВЯЗИ С ОБЩЕСТВЕННОСТЬЮ СЛЕДСТВЕННОГО КОМИТЕТА БЕЛАРУСИ ПАВЛА ТРАУЛЬКО, ПИЛИПЕЦ ПОДОЗРЕВАЕТСЯ В СОВЕРШЕНИИ ПРЕСТУПЛЕНИЯ ПО ЧАСТИ 3 СТАТЬИ 426 УК (ПРЕВЫШЕНИЕ ВЛАСТИ ИЛИ СЛУЖЕБНЫХ ПОЛНОМОЧИЙ).

Слухи об аресте Виктора Пилипца ходили еще в начале августа. Молва связывала «задержание мэра» с недавним арестом Комитетом госбезопасности должностных лиц управления капитального строительства (УКС) Гомельского горисполкома. Однако тогда Гомельский горисполком опроверг информацию об аресте мэра и официально заявил, что Виктор Пилипец приступит к исполнению своих обязанностей 7 августа после окончания трудового отпуска.

Через три недели Лукашенко освободил Виктора Пилипца от должности председателя горисполкома, напоминает «Наша Ніва». Тема скандала с гомельскими коррупционерами в очередной раз всплыла на «Дожинках» в Горках. Лукашенко рассказал журналистам о злоупотреблениях и нарушениях закона со стороны отдельных чиновников.

— Некоторые чиновники, как это случилось в Гомеле, брали десятками квартиры и перепродавали, а деньги клали себе в карман. Сегодня уголовное дело заведено, и не один чиновник со своими родственниками и приближенными сядут на скамью подсудимых, — пообещал глава государства.

Любопытно, что чиновник, которого имел в виду Лукашенко, не взялся из ниоткуда. Виктор Пилипец с июля 2007-го работал помощником президента – главным инспектором по Витебской области, с 2009-го – председателем Гомельского горисполкома.

Арест бывшего мэра Гомеля не первое громкое коррупционное дело этого года. Не так давно вся страна обсуждала скандал, связанный с арестом первого зама мэра Минска. Игорь Васильев попросил у представителей европейского инвестора полмиллиона долларов за «благоприятное решение вопроса». Чиновника взяли прямо в кабинете после получения первой части взятки в размере $ 250 тыс.

Или вспомните громкое дело бывшего заместителя министра внутренних дел Евгения Полудня. В ходе следствия выяснилось, что замминистра неоднократно получал от должностных лиц внутренних органов материальные ценности и денежные средства.

Пока чиновники набивают себе карманы, Лукашенко требует от Генпрокуратуры усилить борьбу с коррупцией. Вот только в результате его 18-летней неустанной борьбы с этим явлением взяточничество и превышение служебных полномочий в коридорах власти почему-то расцветает буйным цветом.

**Олег Мальчишкин.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.09.2012 у 19.40.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.